Год V 1927. САКАВІК. І-ая кніжка.




# ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.



## Зьмест.



ЦАНА асобнага нумару 20 гр., з дастаўкай да хаты 25 гр., на 6 месяцаў 1 зл. 50 гр., да канца году 2 зл. 50 гр.

# Да чытачоў.

Мінуў час, калі мы, здавалася, спалі сном неразбудным.

Беларускі селянін устаў, працёр вочы і, аглядваючыся навакол, шукае новых шляхоў да направы свайго эканамічнага жыцьця.

Яго не здавальняе пераняты ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў спосаб гаспадаркі, якому прабіла ўжо пажагнальная гадзіна.

Цяпер усюды мяркуюць так, каб усе галіны гаспадаркі давалі як найвялікшы прыбытак пры найменшых выдатках.

Вядзе да гэтага толькі знаньне, навука, якімі даўно нашы культурныя суседзі—Немцы, Чэхі і інш., карыстаюцца і даходзяць прост вялікіх дзіваў.

Вось, каб хоць крыху памагчы ў гэтым роднай вёсцы, мы, выдаючы № 1 нашай часопісі, пакуль-што малюсенькую, заклікаем усіх братоў-Беларусаў памагчы нам. Памагчы сваім знаньнем, радай, падпіскай.

Хай кожны наш чытач і прыхільнік пашырае гэтую часопісь і паведамляе нас, якія справы найболей цікавяць і абходзяць нашу гаротную вёску, а мы цастараемся ў меру сіл сваіх, асьвятляць гэтыя пытаньні, прыйсьці з парадай і дапамогай.

„САХА“, як і ў папярэднія часы свайго істнаваньня (выхадзіла з 1912 г. да пачатку вайны, а таксама вышла некалькі нумароў у 1919 г.), будзе і цяпер шчыра служыць усім патрэбам вёскі, маючы на мэце адно: сьвятлейшую будучыню нашае Бацькаўшчыны.

**РЭДАКЦЫЯ.**

# Мэханічная падрыхтоўка зямлі пад засеў.

Ня толькі сярод сялян нашае вёскі, але нават і сярод болей сьвядомых гаспадароў ёсьць яшчэ пагляд—быццам зямля, гэта нешта няжывое, нейкае мёртвае цела... А між тым гэная зямля, якую мы абрабляем пад засеў збожжа, ёсьць зьместам (рэзэрвуарам) жывых істот (мікробаў), якія насяляюць яе мірыядамі і якія патрабуюць для свайго істнаваньня спрыяючых варункаў. Большая частка гэтых мікробаў, сваей нявідзімай для вока чалавека працай, падрыхтоўвае ёміныя часьціны зямлі ў лёгкаспажываную для расьлін форму і гэтым аддае службу гаспадару.

Апрача гэтага працэсу, у якім прыймаюць дзейнасьць нашыя маленькія дабрадзеі, у зямлі адбываюцца і іншыя карысныя для нас працэсы, якія патрабуюць таксама для сябе спрыяючых варункаў.

Разумным вырабам зямлі гаспадар можа дапамагчы, як працы мікробаў, так фізычным і хімічным працэсам і гэтым самым падняць ураджайнасьць зямлі.

Мо', ня ведаючы аб гэтым, пры падрыхтоўцы зямлі пад засеў збожжа, у нас на вёсцы селянін свой шнурок сяк-так узгарэ, нейк закулогае насеньне і лічыць задачу скончанай.

Між тым, правільная ворка*) і падрыхтоўка ральлі пад засеў—гэта ёсьць галоўны залог ураджаю.

Кожную ворку трэба пачынаць зараз-жа па зьняцьці збожжа, не шкадуючы, што травой не скарыстаецца наша скаціна. Гэта страта акупіцца ў сто разоў павышэньнем наступнага ўраджаю.

Як ведама, з практык розных дасьледчых станцыяў і культурных гаспадароў, найвялікшыя ўраджаі адтрымліваюцца тагды, калі ворка была зроблена зараз-жа па здойме збожжа. Ад гэтае воркі найляпей прападае дзікая трава — галоўны вораг нашых палёў, паляпшаецца будоўля (структура) глебы і ляпей перапрывае пожня і наагул пожнівуныя астаткі. Гэтую ворку трэба рабіць плытка—ня болей, як у $1^{1}/_{2}$ вяршка.

Другая ворка на зіму робіцца позна ўвосень, як узыйдзе насеньне дзікіх траў, якія заворваюцца глыбока і зімой прападаюць. Гэту ворку трэба рабіць глыбей, наколькі пазваляе таўшчыня слою ральлі, не баючыся зачапіць крыху дзікай зямлі, якая хутка ад уплыву марозаў, угнаеньня і іншых прычын зьмяняе сваю будоўлю і колер, зьмешваецца з ворнай зямлёй і цераз год мы ўжо бачым аднолькавую масу. Гэтым спосабам мы павялічым ураджайнасьць

*) Кожную ворку трэба рабіць паачародна у склад і разору, што зьністожыць тыя пагоркі, якія мы бачым цяпер на весцы. Шкоднасьць гэтых пагоркаў вядомая кожнаму гаспадару.

сваей палоскі, ці інакш—павялічым самую палоску, не пашыраючы плошчы.

Паступовым паглыбленьнем воркі культурныя народы дайшлі да таго, што на іх гэтакіх самых землях, як і нашы, адтрымліваюцца казачныя для нашага селяніна ўраджаі.

Вясновая ворка пачынаецца тагды, калі зямля абсохне настолькі, што ўторкнутая палка ў зямлю не мажацца. Ворка мокрай зямлі шкодна адбіваецца на будоўлі глебы, за чым кожнаму разумнаму гаспадару трэба пільнаваць, як за сваім вокам, бо ад зямлі з папсутай будоўляй (структурай), ня можна спадзявацца добрых ураджаяў.

Але бывае сухая ворка таксама і шкоднай, асабліва на грунтах цяжкіх (гліна, падзол і інш.), бо пры гэтай ворцы зьяўляюцца вялікшыя груды, пры зьністажэньні якіх бараной ці калодай—зямля пыліцца, а пасьля раптоўнага дажджу зьліваецца ў кару, шкодную для расткоў зярнят.

Вясновую ворку трэба зараз забаранаваць. Паскароджаная ральля, усё роўна, як пад заслонай якой, перахоўвае вільгаць, з якой маладыя расьлінкі могуць карыстацца праз даўжэйшы час засухі. Гэтая вільгаць патрэбна таксама для розных другіх працэсаў, якія адбываюцца ў зямлі і спрыяе перародцы мёртвых частак грунту на лёгкаспажывальную расьлінамі форму.

На Ўкраіне, дзе сухая пагода часта стаіць праз цэлае лета, лепшыя гаспадары ўмеюць затрымліваць вільгаць частым рыхленьнем тонкага паверху ральлі праз увесь час засухі.

У нас, на Беларусі, хоць дажджоў бывае ўлетку болей і часам аж зашмат, аднак здараюцца сухія вясновыя месяцы, дык гэты спосаб ня шкодзіць узяць пад увагу.

*Гаспадар-Практык.*

---

# Ці варта касаваць папар і займаць яго пад збожжа?

Гэтае пытаньне даўно ўжо паўстала сярод сялян нашае вёскі. Вёска адчувае патрэбу зьмены старога спосабу сельскай гаспадаркі і нешта робіць, каб падняць ураджайнасьць свайго дробнага надзелу.

Адны імкнуцца як найхутчэй разьвітацца з вёскай, з яе цераспалосіцай і перайсьці на хутары, дзе ня будзе перашкод гаспадараваць так, як пажадаюць самі, а не грамада; другія-ж бачаць ратунак толькі ў павялічэньні плошчы свайго падзелу і стараюца прыдбаць як небудзь яшчэ зямлі.

Не затрымліваючыся тутака над гэтымі пытаньнямі

якія маюць свае добрыя стораны, скажу, што і невялікага куска зямлі мы выкарыстаць, як належыць, ня можам, бо пакуль будзе істнаваць наша трохпольле з прысутным ей пустым папарам, аб поўным выкарыстаньні нашае плошчы зямлі ня можа быць і гутаркі.

Вядома, што трохпольле, пры якім астаецца $^1/_3$ частка ўсей зямлі „гуляць“, мы атрымалі ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў і гэтага трохпольля на Беларусі пільнуюцца, як традыцыі.

Перш, калі ў нашых дзядоў зямлі хапала ў дастатку, трохпольле з папаром мо' і мела сэнс, але цяпер, калі зямлі недахват, пакідаць папар пад пашу ёсьць згубай для цэлай гаспадаркі. Варта толькі цьвярозымі вачыма глянуць на гэтыя чорныя, голыя праз цэлае лета папары, як будзе ясна і зразумела, што яны ня могуць служыць пашай для скаціны, якая на іх ня так пасецца, як галадуе.

Вось як адзін гаспадар з Дзісеншчыны піша аб пашы на папары:

„На ўсім абшары нашае Бацькаўшчыны параскіданы голыя, чорныя плямы, што завуцца папарамі і па якіх як быццам пасецца сялянская жывёлінка. Бедная, галодная кароўка, выгнаная гаспадаром „палындаць“ па папары, падняўшы галаву, прэцца кудысьці, бо тутака не знаходзе сабе спажывы. Прэцца яна ў хмызьняк, альбо лясок, каб там знайсьці каля кусьціка хоць старую сухую траўку. Шчасьлівая яна, калі там нешта знойдзе, бо інакш вернецца дамоў галодная. Карысьці ад яе не чакай, бо колькі-ж таго малака будзе ад галоднай каровы“.

Сумны гэта абразок з нашага сялянскага жыцьця. Што-ж магло-б паправіць гэтае, здаецца, бязвыхаднае палажэньне? Дзе выхад?

Выхад адзін: „купіць“ у самога сябе яшчэ частку зямлі, гэта значыць тую, што ёсьць пад папарам і засеяць яе карыснымі культурамі, ад якіх-бы зямля ня пусьцела, а наадварот.

Каб прыкладна паказаць сваім суседзям карысьць гэтага спосабу, я ў 1922 г. угаварыў сялян засеяць адлеглы кавалак папару вікай, якую раіў скасіць на зялёны пошар.

Частка разумнейшых гаспадароў згадзілася на маю „выдумку“, а рэшта пасьмейвалася, кажучы, што гэтым галоціцца зямля, што двух скурацінак з аднаго бычка не дзяруць. Калі з-пад сьнегу ў 1923 г. рунь вышла ня горшая з пад вікі, чым па гуляшчаму папару, то ўжо амаль ня ўся вёска ў гэтым годзе парашыла заняць палову папару пад віку бульбу і ячмень. У 1924 г. жыта таксама вырасла па віцы, скошанай на зялёны пошар, добрай, але дзе віку сьпялілі і па ячменю, азімае была гушчэйшым. З-пад бульбы азіміна была такая самая, як з-пад вікі на

зялёны пошар. У тым-жа годзе, я на аднэй палосцы засеяў віку, частку якой скасіў тады, як толькі завязаліся струкі, а рэшту сьпяліў. Хаця гною палажыў аднолькава, але ўраджай жыта ў 1925 годзе быў розны: здалёку жыта з-пад вікі на зялёны пошар кідалася ў вока сваім цёмным колерам і вышынёй і розьнілася ня толькі ад тых палос, дзе віку сьпялілі, але і ад тых, якія „гулялі".

Аднаго дня сьвятам я, прызваўшы гаспадароў і паказаўшы гэтую розьніцу, растлумачыў, што жыта і іншыя каласавыя збажыны могуць расьці пасьля ўсіх бабовых расьлін, дзеля таго, што бабовыя расьліны забіраюць з паветра азот і перарабляюць яго ў азотны квас ($N_6 NO_3$). Гэту вельмі карысную працу выконваюць маленькія нашы дабрадзеі мікробы, жывучыя ў жаўлачкох на карэньнях толькі бабовых расьлін. Пасьля збору гэтых культур у ральлі астацца навязаньне (соль) азотнага квасу з шчолакам. Гэта соль вельмі патрэбна для расьлін і заўсёды на нашых землях яе не хапае. Ад гэтага і жыта тутака вырасла лепшым, чым пасьля ячменю.

Што датычыць гушчэйшага жыта пасьля высьпеўшай вікі, то гэта тлумачыцца тым, што насеньне ўсіх культур для свайго сфармаваньня патрабуе вельмі многа саміх дарагіх спажыўных часьцін, якія пасьля вікі на зялёны пошар астанецца ў ральлі для наступнага збожжа.

Гэты маленькі прыклад я падаў тутака сумысьля, каб „не хадзіць" далёка за граніцу, да якой у нашых сялян яшчэ мала веры.

Гэта маленькая практыка паказвае, што папар ня толькі можна засяваць бяз шкоднасьці для наступнага ураджаю жыта, але яно ў большай частцы пасьля бабовых, скошаных на зялёны пошар, бывае лепшым. *У. П.*

# Як ляпей вырабляць канюшынішча.

Як ведама, канюшына за 2—3 гады свайго росту вытварае пасьля сябе дзярніну. Калі вырабляць задзярнелае поле звычайным спосабам, напрыклад, узгараць і зараз-жа паскарадзіць, дык поле з-пад канюшыны будзе мець вельмі нязграбны выгляд. Усюды будуць ляжаць кавалкі дзярна, якія пасьля высыхаюць і ляжаць на паверху ральлі праз цэлае лета неперапрэўшымі, а ў мокрае лета гэтыя кавалкі хутка зеляняюць і нішчаць засевы.

Пры вырабе канюшынішча трэба мець на ўвазе:

1) Каб дзярніна добра перапрэла і згніла. Карэньні канюшыны пасьля гэтага хутка раскладаюцца на складныя часьціны, якія і ідуць у спажыву наступнага збожжа.

2) Узрыхліць задзярнелае поле з-пад канюшынішча так, каб засеяныя зярняткі можна было закрыць. Аднак разрыхляць поле да дробнага парашку ня варта, бо такое поле лёгка заплывае пасьля дажджу і пакрываецца скарынкай, вельмі шкоднай для ўсходу і далейшага росту маладых расьлін.

3) Дзярніна павінна добра перагніць, бо, разлажыўшыся, пожніўныя астаткі і карэньні паляпшаюць будоўлю (структуру) ральлі. Найляпей дзярно перапрывае тады, калі яно не высыхае і дапускае прахадзіць у яго вільгаці і паветру. Гэта магчыма тады, калі поле выраблена мягка і не распылена. Лепшым спосабам вырабу канюшынішча лічыцца поўны абарот скібы. Пры гэтым поле арэцца шырокімі нятоўстымі скібамі, якія не навінны разрывацца на кавалкі, а толькі абарачвацца верхнім бокам у ніз. Далей поле скародзіцца ўдоўж, каб не адварачваць дзярна.

Пры такім вырабе канюшынішча, дзярніна перапрэе зусім добра, але разьмягчэньне скібы бывае дрэннае.

Больш скорае перагніваньне дзёрну бывае пры лушчэньні, або пры дробнай ворцы.

Лушчэньнем здымаецца верхні слой дзярніны, які скора высыхае і замірае. Пры сухой пагодзе ўжо праз тыдзень можна гараць поле на поўную глыбіню. Падсохшая дзярніна заворваецца і прысыпаецца зьверху мягкім слоем ральлі. Гэтакім чынам, лушчэньне і наступнае ўзорваньне на поўную глыбіню даюць добры выраб поля.

Лушчэньне лепш рабіць колькілямешным плугам, а калі такога няма, дык можна і звычайным сялянскім плугам.

Але лепшым спосабам выраблeньня канюшынішча зьяўляецца культурнае ўзорваньне. Яго рабіць скарэй і лягчэй плугам „Саха“, да дышля якога прымацоўваецца яшчэ маленькі плужок. Ён ідзе ў баразьне наперад нажа і галоўнага корпуса плуга, зрэзвае верхні слой дзёрну на 1—5 ст. і скідвае яго ў баразну. У гэты час задні галоўны корпус плуга засыпае гэту баразну мягкай зямлёй. Плуг з дзёрназдымам робіць адразу дзьве працы: лушчэньне і глыбокую ворку. Гэткая ворка завецца культурнай.

За адсутнасьцю каштоўнага плуга „Саха“, культурную ворку магчыма правясьці з дапамогай двох сялянскіх плугоў. Першы служыць як дзёрназдым, а другі—як галоўны корпус.

У апошнія часы, па досьледу сельска-гаспадарчых станцыяў, рэкомэндуецца яшчэ адзін спосаб вырабу канюшынішча. Тутака поле перш дзяруць пружыноўкай да чорнага і ўжо потым робіцца звычайная глыбокая ворка.

Гэты спосаб вырабу канюшынішча магчыма правадзіць і ў дробных сялянскіх гаспадарках. Шмат дзе ўжо ў Зах. Беларусі і карыстаюцца ім. *Ратай.*

# Якім насеньнем сеяць?

У нас на Беларусі вельмі мала затрымліваюцца над пытаньнем: „Якім насеньнем засяваць сваю палоску?“ Якое насеньне трапіцца, такім і сеюць. Вось чаму мы бачым, што на нашых палёх расьце быццам не авёс, ці ячмень, а сьвярэпка, гірса, кукаль і іншыя дзікія травы; яны сталі неадлучнымі супутнікамі сялянскай збажыны.

Адкуль на нашых палёх бярэцца гэтая дзікая трава, каторая часта ўшчэнт нішчыць засевы? На гэта ўсюды сяляне адказваюць, што яе „зямля родзіць“, альбо „ад даждЖу“, а гірсу лічаць, што яна вырастае з зярня жыта. Разумеецца, усё гэта ня так. Што нашы палоскі засьмечаны з папярэдніх пасеваў, што наносіцца на іх насеньне з межаў, што мы шмат сьмецьцякоў вывозім з гноем, у гэтым няма сумлеву, але што галоўную масу гэтых сьмецьцякоў мы высяваем разам з культурным насеньнем, гэта, на жаль, ёсьць вялікая праўда. У найбольшай меры гэта ёсьць галоўнай прычынай засьмечанасьці нашых палёў. Ходацца з гэтым злом нашых палёў можна двама спосабамі:

1) з году ў год зьмяняць дрэннае засьмечанае насеньне пакупным добрым, знарок для пасеву ачышчаным, зярнём;

2) ці што год самому акуратна вычышчаць наша насеньне на машынах, а калі іх няма, дык ручным спосабам.

Першы спосаб будзе лягчэйшы і пэўны. Меней клопату; варта толькі купіць добра вядомы і адпаведны да нашага клімату і грунту. Але перашкодай гэтаму ёсьць часта нашае безграшоўе.

Другі спосаб—ачышчаць на пасеў штогод свае зярнё на спэцыяльных машынах (трыор, зьмейка і інш.) можна толькі там, дзе яны ёсьць. Цэлы камплект гэтых машын каштуе каля 150 руб. золатам, і нашаму селяніну аднаму завясьці ў сябе немагчыма.

З простых спосабаў ачышчэньня насеньня для нас пакуль што астаецца толькі ачышчэньне на варпах, пушаках (млынках), які можа зрабіць сам гаспадар і адвяваньне насеньня на вялікшым таку. Перадкі, як болей важкае зярнё, і будзе трохі адпавядаць патрэбнаму нам да пасеву насеньню.

Такім чынам, мы пазбавімся, калі ня зусім, то напалову ад тэй шкоды, якую прыносіць нам засьмечанае насеньне. І гэтая засьмечанасьць, ад якой мы маем штогод вялізныя страты, ня ёсьць цяжкая доля, прад якой гаспадар павінен скардзіцца, а наадварот, можна толькі сказаць, што ў кожнага гаспадара на полі ёсьць столькі сьмецьцякоў, сколькі ён заслужыў сваей нядбаласьцю. *Сявец.*

# Культура кармавых кораньплодаў.

Гадоў каля 150 таму, за часоў панаваньня расейскай царыцы Кацярыны II, сталі ў нас на Беларусі пашыраць пробы пасадкі бульбы. Гэтую добрую, але новую збажыну, як і ўсякую навіну ў нас наагул, сяляне тагды сустрэлі варожа і месцамі нават пачалі бунтавацца і культуру бульбы трэ' было разводзіць па загаду ўлады.

Мала-па-малу народ да бульбы прывык, пачаў садзіць яе ня толькі на гародах, але і на полі. Цяпер культура бульбы займае ў нас амаль ня першае месца сярод другіх збожжаў.

Гэты факт падаецца тутака сумысьля, каб паказаць, як туга ў нас на Беларусі прышчапіць што небудзь новае, няпрывычнае.

Думаецца, што з гэтай самай прычыны і кармавыя кораньплоды (буракі, рэпа і інш.) не заваявалі яшчэ сабе пачэснага месца ў нашых сучасных сялян. Рэдка дзе ўбачыш на нашых гародах лешку з кармавымі буракамі, ня гледзячы на тое, што культура кораньплодаў вельмі карысная для сялянскай гаспадаркі, калі корму наагул, а добрага корму тым болей, у нас брак.

Клімат і грунт на Беларусі вельмі надаецца на кармавыя кораньплоды. На нашых палёх пры правільнай тэхніцы (выраб поля, пасеў, дагляд) можна адтрымаць вялікія ўраджаі. Аб гэтым сьведчыць практыка нашых культурных гаспадароў і досьледы на прыкладных вучастках, якія штогод закладвалі аграномы ў сялянскіх гаспадарках. У 1926 годзе гэтакіх вучасткаў было заложана ў Савецкай Беларусі 754.

Вось якія былі ўраджаі ў некаторых паветах:

| Паветы | Буракі пуд. на дзес. | Турнэпсу пуд. на дзес. |
|---|---|---|
| Менскі . . . . . . . . | 1800—4000 | 2000—4000 |
| Барысаўскі . . . . . . | 1300—3000 | 2000—3000 |
| Бабруйскі . . . . . . . | 1000—3000 | 1300—4200 |
| Слуцкі . . . . . . . . | 1500—4200 | 2500—4800 |
| Віцебскі . . . . . . . | — | — |
| Аршанскі . . . . . . . | — | — |

Параўняем даход ад буракоў з даходам ад аўса.

Лічучы, што кармавыя кораньплоды пры правільнай культуры іх, даюць у Зах. Беларусі 2500 пуд. з дзесяціны,

а бяручы даваеныя цэны, па 8 кап. пуд—адтрымаем з дзесяціны валавога барыша 200 руб. Тым часам дзесяціна аўса дае ў сярэднім 45 п. зярня па 60 к. пуд і 75 пуд. саломы па 18 кап. пуд, ці разам 40 р. 50 кап. Розьніца (200 р. — 40 р. 50 к.) = 159 р. 50 кап.

Гэтая розьніца ў валавым барышу між буракамі і аўсом, думаецца, шмат чаго скажа нашаму чытачу. А калі да гэтага дадаць, што караньплоды прадаваць ня варта, а ляпей, як той казаў, „перарабляць" іх на мяса і малочныя прадукты ў сваей гаспадарцы, дык карысьць ад гэтага, разумеецца, будзе яшчэ большая.

Па кармавой вартасьці дзесяціна з караньплодамі можа замяніць да 1000 пуд. добрага сена, ці 4-5 дзес. найлепшага лугу.

Усе караньплоды вымагаюць добра ўгноенай глебы. Пажадана, каб гэта ўгнаеньне было зроблена загадзя. Мінэральныя гнаі могуць з пасьпехам замяніць частку гною, а пад турнэпс поўнасьцю. З'усіх караньплодаў у нас на Беларусі ляпей усяго ўдаюцца буракі і турнэпс.

Заўважым яшчэ раз, што культура караньплодаў будзе найлепшая пры правільнай тэхніцы.

Цяпер мы разгледзім культуру буракоў і турнэпса, дзе даныя ўзяты або з асабістай практыкі аўтара гэтай стацьці, альбо з дасьледчых станцыяў і прыкладных вучасткаў на землях нашае Бацькаўшчыны.

*Буракі*. Насеньне ў клубочках па 3-5 штук. Клубочкі, ці як іх абмылкова завуць, насеньне, перахоўваюць усхожасьці 2-4 гады. У фунце сярэднім лікам ёсьць каля 15.000 штук.

Буракі патрабуюць зямлі суглінкавай, але могуць удавацца і на болей лёгкай, калі яна перад гэтым добра гноена. На бедных глебах трэба з восені палажыць добра перапрэўшага гною і абараць яго. Можна садзіць расадай (флянсамі), альбо сеяць проста ў грунт намочаным насеньнем.

Зямля павінна быць да пасадкі, ці засеву буракоў добра падрыхтована. Пры пасадцы на ніве праводзяць радкі макерам (граблямі на 2 зубы). Радок ад радка павінен быць каля 12 вяр. Пасадку расады лучаюць у вільготную пагоду. Караньні расьлінак макаюць у сумязь кароўяга калу з глінай і вадой і садзяць у ямкі, паробленыя калочкам. Расьлінка ад расьлінкі ў радку на горшых глебах — 4-6 вяр., на лепшых 6-8 вяр.

Зямлю асьцярожна прыціскаюць рукамі да флянсаў і, калі трэба, паліваюць. Далейшыя паліўкі, пакуль бурачкі ня прыжывуць, робяцца толькі раніцай і вечарам, нельга днём.

Пасеў насеньня буракоў проста ў грунт дае большаю часткаю ураджай ніжэйшы. Робіцца гэтакім парадкам:

у радкі, зробленыя макерам, сыплецца насеньне роўна, або гнёздамі. Потым расьлінкі прарэзваюцца.

Зьніштажаецца дзікая трава матыжкамі, якія можа зрабіць кожны каваль, а пасьля, як расьлінкі падрастуць, яны абсыпаюцца зямлёй на манер бульбы абсыпальнікам (акучнікам), або простай сахой з аднымі нарогамі.

Буракі добра перахоўваюцць ў вараўні, або ямах. Сярэдні ўраджай у нас каля 2500-3000 пуд. з дзес.

**Турнэпс.** (*Кармавая рэпа*). Насеньне перахоўвае ўсхожасьць 3-4 гады. У фунце бывае да 300.000 штук. Зямлі патрабуе лёгкай і абавязкова нясьвежа ўгноенай. З мінэральных гнаёў любіць супэрфасфат (крамны попел), паташовыя солі. Сеецца проста ў грунт альбо рана вясной, пакуль незацьвіла чаромха, альбо ў канцы чэрвеня. Інакш маладыя расьлінкі ня вытрымліваюць нападу мошкі (земляной блахі), якая болей усяго шкодная ў траўні і чэрвені месяцах.

Дагляд за рэпай аднолькавы, як і за буракамі. Сярэдні ўраджай у нас ад 2000-3500 пуд. з дзесяціны. Рэпа-караньплод вадзяністы, дзеля чаго хутка псуецца. Рэкомэндуецца скармліваць у першую чаргу. *У. П.*

---

# Як падняць гадоўлю скаціны у дробных гаспадарках нашага краю.

У нашай староньцы, пры яе ўмяркаваным клімаце, пры дастатку сенажацяў, пры зямельцы, на каторай удаюцца лепшыя кармавыя травы і караньплоды, маем усе варункі, спрыяючыя гадоўлі ўсялякай скаціны, а дойных кароў у першы чарод.

Апрача таго, усё ўзрастаючы лік жыхароў у гарадох і мястэчках вытварае вялікі збыт на малочныя прадукты; да гэтага ў нас больш за ўсё дробных гаспадарак, дзе скаціну могуць ляпей даглядзець, чым у вялікіх гаспадарках, каторыя павінны ўсялякую работу рабіць чужымі рукамі.

І чаму-ж, ня гледзячы на тое, што прырода гэтак спрыяе ў нас скатаводзтву, апошняе пастаўлена так дрэнна? Чаму-ж наша скацінка гэтакая дрэнная, што аб карысьці ад яе мала спадзяюцца? А вось чаму: ня любім мы сваю скацінку, ня хочам падумаць, што гэткая гадоўля кароў, як мы гадуем цяпер — ёсьць толькі страта для нас. Каней у нас трохі болей даглядаюць, аб каню гаспадар болей рупіцца, а часам сам не даядае, каб толькі добра каня пакарміць, а на кароўку не зьвяртае ўвагі. Чуць дацягне ў хляве да вясны, аж ей бакі аблезуць, а праз усю вясну трэба

яе падымаць. Выганяецца на поле тады, калі тамака нічога яшчэ няма і, ня ўспее адхапіцца, а там ізноў лындае па голай ральлі. І бывае так, што карова праз цэлае лета носіць старую поўсьць. Галодная, худая вышла яна вясной на пашу, худая прышла на зіму ў хлеў.

І што-ж тутака дзівіцца, што такая скаціна не дае нам карысьці?

Праўда, пасьля цяленьня вясной на сьвежай травіцы дае яшчэ крыху малака, але хутка запускаецца. Наш селянін, у каторага часта ўсё багацтва — адна кароўка, поўгоду з малымі дзеткамі пасьціць.

А ўсе гэта павінна быць іначай: пры нашых прыродных і эканамічных варунках карова павінна даць карысьць. І калі яна не дае, то вінават толькі сам гаспадар, вінавата яго нядбаласьць. Трэба памятаць, што карова ў нас ёсьць самая даходная жывёла ўва ўсей гаспадарцы і яе трэба ляпей даглядаць.

Найперш, яе трэба ляпей карміць круглы год, а ня толькі зімой і калі яна дае малако.

Калі няма добрых лугоў і пасьвіск, то трэба сеяць канюшыну, віку, сэрадэлю, каб летам мець магчымасьць падкармліваць зялёным кормам; на зіму трэба прыгатаваць бульбы, буракоў, турнэпсу, каб кожны дзень даваць хоць па гарцу караньплодаў праз усю зіму.

Апрача саломы і мякіны, трэба даваць канюшыны і вікі, ды яшчэ дабаўляць мукі ці вотрубей. Тады толькі наша карова акупіць корм і ня будзе служыць у нас за машыну для вырабу гною. Час кінуць думку, што мы патрапілі-б даглядаць скаціну, было-б толькі чым? Што мы ня ўмеем яе даглядаць, ня дбаем аб гэтым — ёсьць факт. А хто кажа, што ў нас няма адпаведных кормаў для скаціны, то гэта значыць, што ён ня хоча разглядзецца наўкол сябе, ня хоча падумаць, што можна набыць корму болей, калі мы зьвернем хоць трохі ўвагі на вытворчасьць нашых лугоў, на гэты наш папар, якіх мы ня хочам і ня ўмеем ляпей карыстаць. Апрача лепшага корму і дагляду, трэба зьвярнуць увагу і на падбор нашай скаціны.

Кабыл то яшчэ ў нас водзяць да лепшых жарабцоў, а каровы бегаюцца з тымі бычкамі, якія трапяцца, ад чаго і драбнеюць нашы каровы з кожным годам.

Вучоныя і культурныя гаспадары дазналі, што ад добрых бацькоў бывае і добрае патомства.

Гэтым даўно ўжо скарысталіся ангельскія і нямецкія гаспадары і добрым падборам даканалі дзіваў.

Гэтакім чынам ангельцы выгадавалі такіх рысакоў, сьвіней, якіх перад тым ня бачыў сьвет.

А ў малочных кароў насьлественасьць мае яшчэ большую сілу, чым у другой якой скаціны.

Добрая карова будзе ня толькі ад добрае маткі, але яшчэ больш ад добрага бацкі. Спробамі і практыкай дазнана, што бык ад удойлівых матак дае такое патомства, якое ад'значаецца найлепшай малочнасьцю. Вось чаму заграніцай плацяць за добрых быкоў па некалькі тысяч рублёў золатам.

І мы павінны зьвярнуць больш увагі на добрых быкоў, гэта знача ад добрых кароў.

На гэта зьвернем, браты беларусы, болей увагі, бо падняцьце нашага жыхарства ў нашых дробных гаспадарках ёсьць будучыня і галоўнае багацтва нашай Бацькаўшчыны. Праца марудная, клапатлівая, але не безнадзейная.

*Л—с.*

---

## Як зрабіць танны парнік.

Недарагі парнік можна зрабіць з такіх дошчак (можна ад скрынак, што перавозяцца крамныя тавары). Скрынкі зьбіваюцца так, каб был і ўвярху вузейшыя (на манер сьцятай пірамiды). Велічыня скрынак залежыць ад пажаданьня. Каб было мацней, вуглы скрынкі абшываюцца брускамі і прыбіваюцца цьвякамі. Верх скрынкі падзеляны крыжавым пераплётам, да якога ўстаўляюцца рамы са шклом. Усе стыкі трэба абавязкава памазаць якой небудзь алейнай фарбай і прысыпаць пяском. На дно скрынкі кладуць конскі гной і добра яго прыціскаюць. Наверх насыпаюць зямлю (палову гнойнай і палову дзярванай) у таўшчыню каля $^1/_4$ аршыну.

*Гароднік.*

---

## Барацьба з замаразкамі, як сад цьвіце.

На 20-30 саж. адна ад другой раскідваюцца кучы сухога гною. Калі вечарам паніжаецца тэмпэратура паветра, а неба стаіць чыстае бяз вобалакаў, то трэба чакаць замаразку. Калі ў 2 гадз. уначы зьніжэньне тэмпэратуры дойдзе да $1^0$, запальваюць кучы гною, перад гэтым аблітыя газай. Трэба даглядаць, каб гной не гарэў, а тлеўся, даючы магчыма болей дыму.

Да ўсходу сонца сад будзе пад заслонай дыму, які і ратуе дрэвы ад марозу.

*У. П.*

---

# Нарада для садавода.

Нашы садаводы, перасаджваючы дрэва на новае месца, дбаюць толькі аб тым, каб дрэву даць добрую глебу і поўную забясьпечанасьць сьветам і вадой. Яны старанна рыхтуюць зямельку, каб даць свабодны доступ сьвежага паветра да карэньняў, сваячасна і паліўкай стараюцца, каб дрэўца як найхутчэй прыжыло і г д. Але яны ніякай увагі не зварочваюць на адну з важнейшых умоваў правільнага росту дрэва: каб дрэўца ў належнай меры асьвятлялася сонцам.

На старым месцы (у школцы, ці дзе) маладое дрэўца прызвычаілася, каб яго асьвятляла сонца з пэўных бакоў, а на новым можа стацца так, што яно будзе асьвятляцца па іншаму. На гэтых цяпер, раней неасьвятляных, бакох і могуць зьяўляцца апалы.

Каб іх пазбавіцца, трэба пры выкапваньні дрэўца для перасадкі, зазначыць алаўком той бок, якім дрэўца было павернута на поўдзень. Перасаджваць яго трэба гэтым самым бокам, як яно расло на старым месцы, павярнуўшы на поўдзень. Гэтакім спосабам садавод часта пазбавіцца ад апалаў дрэва, бо апошняе расьце і на новым месцы ў прывыкшых умовах. *Б.*

---

# Работы каля пчолаў у месяцы сакавіку.

Калі пчаляр хоча каб яго пчолы добра гадаваліся, працавалі і прыносілі яму карысьць, ён павінен бязупынна сачыць за іх жыцьцём і ўсімі іх патрэбамі. Вялікае значэньне мае дагляд пчолаў у раньнюю вясну, бо калі яны нават добра перазімуюць, то могуць лёгка прапасьць вясною, дзеля недахвату адпаведнага дагляду.

Ужо ў лютым матка пачынае чэрыць, спачатку мала, пасьля што раз болей, а дзеля таго, што чарва патрабуе шмат цяплыні, а здараюцца прымарозкі і большыя марозы, пчаляр не павінен у ніякім выпадку *адчыняць вульлёў* і мусіць дбаць, каб *гнёздавыя рамкі былі цёплыя і шчыльна накрытыя.*

Хаця ў вульлі павінны быць цёпла, але-ж ня можа быць *душна*, а так, як зімою сьвежае паветра праходзіць выключна праз вылеты, трэба глядзець, каб дольны вылет ня быў засьмечаны трупамі пчолаў, якія апроч таго, што не дапускаюць сьвежага паветра, раскладаюцца і псуюць яго.

У сакавіку здараюцца ўжо дні, у якія цяплыня даходзіць да 8 градусаў. У гэтакі дзень пчолы робяць свой першы *аблёт*, каб ачысьціцца ад сабраўшагася за зіму ў іх кішцы калу.

Падчас аблёту пчаляр павінен быць абавязкава ў пчальніку, бо тагды лёгка можа пазнаць сілу і стан сваіх раёў. Пчолы моцныя і маючыя матку вылятаюць у вялікім ліку і кружацца ў паветры з вясёлым бзыканьнем.

Калі з якога небудзь вульля пчолы зусім не вылятаюць, то трэба да іх пастукацца і паслухаць, як акажуцца: калі ў іх усё ў парадку, то акажуцца моцным, роўным шумам і зараз пачнуць вылятаць; бязматачныя зашумяць жаласна, як-бы выючы і вылятаць ня будуць; не вылятаюць таксама і галодныя, а толькі аказываюцца ціха, як шэлест лісьцяў.

Галодных пчолаў гэтага-ж самага дня падкармліваем цукровым сыропам, бяручы на 2 часьці цукру 1 частку ва-ды, цукер з вадой варым на малым агні, зьбіраем з яго бруд, даем пчолам найлепш налівачы проста ў пустыя плястры.

Бязматачным у гэты-ж дзень, або ў бліжэйшыя цёплыя дні дадаём матку, а калі яе ў запасе ня маем, то злучаем іх з якім небудзь другім слабым роем.

На другі або на трэці дзень пасьля аблёту, калі пагода трывае ясная і цёплая, пчаляр мусіць усе вульлі падмясьці. Прыступаем да гэтага так: бяром скрабачку з доўгай ручкай і мягкую трэску, ціханька адчыняем дзьверы, выймаем сена ці салому, якімі запхана пустое месца, выграбаем з-пад рамак сьмяцьцё і няжывыя пчолы і дачыста вымятаем шчоткай. Тады сена ізноў кладзем на месца, замяняючы яго сухім, калі-б старое было вільготнае. Падчас падмятаньня стараемся захоўвацца ціха, ня стукаць, ня штурхаць рамак і г. д. Верхняй падушкі, якой прыктыты рамкі, з месца ня кратаем.

Сьмяцьця не вымятаем на зямлю, а ў якую небудзь пасудзіну і, калі ў ім няма кусочкаў вошчыны, закапваем у зямлю здалёк ад пчальніка, або палім.

У сакавіку, а ў позьнюю вясну ў пачатку красавіка, найчасьцей пачынаюць цьвісьці: *ляшчына*, *вярба*, *лаза*, *таталі*, а далей *агрэст* і *парэчкі*, якія, асабліва першыя чатыры, даюць пчолам шмат *пяргі*, так ім патрэбнай дзеля ўзгадаваньня маладога пакаленьня.

Хто гэтых дрэваў блізка каля пчальніка ня мае, павінен парупіцца, каб насадзіць іх тым больш, што прыймаюцца яны вельмі лёгка і растуць хутка, а пакуль што мусіць замяніць сваім пчолам пяргу—мукой. Мука бярэцца жытняя, пытляваная, насыпаецца ў сухія плясты і вешаецца, або ставіцца ў пчальніку. Пчолы хутка муку зглядзяць і выбяруць яе дачыста.

*З. Верас.*

---

# Як вывесьці сырасьць з дому і т. зв. грыб.

Калі ў доме дзеравяным завялася сырасьць, трэба старацца асушыць памяшчэньне, добра палячы ў печы пры адчыненых вокнах. Па вуглох (кутох) і каля мокрых сьцен трэба ставіць раскалены кокс, або звычайны вугаль у жалезных кашох. Пры гэтым належыць выьцерагацца, каб ад такога каша не загарэлася сьцяна.

У выпадку-ж паяўленьня ў хаце т. зв. грыба належыць зрабіць наступнае:

1) старацца зьнішчыць асяродкі грыба, які падобна моху сьцелецца на дрэве, дзеля гэтага трэба сарваць падлогу, калі грыб асеў пад ею, або выкінуць іншыя часьці дому (сьцены, вокна), калі грыб аселіўся на іх.

2) аглядзець, якія часьці дому не заняты грыбам, толькі здаровае дрэва пакінуць на месцы, усё-ж, дзе ўжо ёсьць грыб, безадкладна выкінуць. Пры гэтым лепш выкінуць часьць здаровага дрэва, чымся пакінуць хворае, бо зараза грыбовая пранікае глыбока ў дрэва. Хворае дрэва спаліць.

3) падсыпку з-пад падлогі разам з грунтовай зямлёю на $1/2$ арш. у глыб вывесьці далей ад будоўлі.

4) гэтак ачышчаны ад грыба дом прасушыць, ачыніўшы дзьверы і вокны і так праветрываць дом ня менш двох тыдняў;

5) выкінутае дрэва замяніць новым, выцершы яго перад закладкай крэазотам з соляй, або газай, моцна запраўленай соляй;

6) у фундамэнце зрабіць ваконца з чатырох бакоў (або хоць з двох) цераз якія паветра можа даходзіць пад падлогу і асушаць яе.

7) забясьпечыць фундамант дому ад зацёкаў; асабліва трэба зрабіць адход для вады. якая сьцякае з даху, каб не дапусьціць яе пад фундамант. Дзеля гэтага трэба даць брукаваньне кругом дому з нахіленым углубленьнем для сьцёку вады з акопаў. *Д—скі.*

---

# Парады агранома.

## I.

### Падсеў траў на сенажаці.

Падсяваць травы дзеля паляпшэньня ўраджаю і якасьці травы раіцца зараз-жа па зборы сена.

Дзеля гэтага сенажаць трэба пабаранаваць звычайнай бараной (лепей было-б лугавой). Патым пасеяць мешанку траў і сенажаць прыкаціць.

Для падсеву ўжываюцца розныя мешанкі траў, але

яны павіны быць так падабраны, каб былі паміж імі высокія і нізкія і разам розныя гатункі канюшыны. Найболей простай будзе такая мяшанка:

| | |
|---|---|
| канюшыны чырвонай . | 11 ф. |
| швэцкай . . . . . | 27 „ |
| цімафейкі . . . . . | 10 „ |
| райграсу ангельскага . | 20 „ |
| Усяго (на дзесяціну | 1. п. 28 ф. |

Калі травастой густы, падсеў можна паменшыць на палову.

Падсеў можна рабіць вясной або ў восень.

Калі немагчыма купіць насеньне траў, бывае што падсяваюць патрускі (патрухі), але абавязкова, каб гэта патруска была з вельмі добрага лугу.

Да гэтага няшкодзіць далучыць штучных гнаёў (тамасоўкі і каініта).

## II.

## Зьнішчэньне на лугу пустазельля і другой дзікай травы.

Каб зьнішчыць пустазельле і іншыя непажаданыя для гаспадара травы на сенажаці, апрача вясеньняга і асеньняга баранаваньня, мае вялізнае значэньне скос сенажаці да таго часу, пакуль непажаданыя травы не далі высьпеўшага насеньня, бо інакш яно ізноў высеецца на сенажаці і засьмечвае яе. Калі гэта рабіць падрад гадоў 3 — 4, то гэтыя травы паступова нішчацца. Адначасна можна падсеяць мешанку культурных траў.

## III.

## Шкоднасьць раньняга вясеньняга выгану скаціны на сенажаць.

Сяляне выганяюць скаціну на сенажаць рана вясной, бо добра ня ведаюць, як гэта шкодзіць лугом, а асабліва вільготным. Скаціна сенажаць капыціць і ямкі ад капычэньня не зарастаюць травой, дзеля чаго ўраджай ня можа быць поўны.

Потым, маладая траўка, якая мусіцьісьці пад скос, будучы з'едзена, затрымліваецца і расьце спачатку, а далей ня можа адхапіцца.

Непажаданая для нас трава скацінай не зьніштажаецца і расьце свабодна, глушачы культурныя травы.

Усюды, дзе жадаюць адтрымаць з сенажаці поўны ўраджай — раіцца скаціну ні позна ў восень, ні рана вясной ня пускаць на сенажаць.

Выдавец сэн. УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ.
Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны,—Вільня, Людвісарская 1.

# Прыймаецца падпіска

на першую сельска-гаспадарскую часопісь

# „САХА“

месячнік з абыймом каля 240 старонак у год.

**Часопісь** ставіць мэтай у навукова папулярнай форме знаёміць наша сялянства з навінамі арганамічнай навукі і дасягненьнямі практыкаў-гаспадароў.

**Часопісь** будзе знаёміць с тымі спосабамі вядзеньня сельскай гаспадаркі, калі можна бяз значных грашавых затрат павялічыць свой прыбытак.

**Часопісь** будзе імкнуцца, каб на тэрыторыі Заходняае Беларусі ўтварыць інстытут сялян-дасьледчыкаў і кіраваць іх працай.

**Часопісь** будзе карысна сялянству, чытальням, гуртком, бібліатэкам і г. д.

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА на год 3 зл., на паўгоду 1 зл. 50 гр., адзін нумар каштуе 20 гр., з дастаўкай да хаты 25 гр. **Падпішчыкі будуць адтрымліваць часопісь толькі па перасылцы платы.**

АДРЭС РЭДАКЦЫІ: Вільня, вул. Сьв. Анны, д. № 2, кв. 3.